Павел СІМ

# З ПАЛОНУ ІСНУЮЧЫХ НОРМ

## БЯЗДОННЕ ДЗЯЦІНСТВА

Бяздонне ўспамінаў
Са свету дзяцінства:
Бязмежная радасць,
З прыродай адзінства,
Задумак фантаны,
З падручнага цацкі.
Нібы апантаны,
Ствараеш сам казку.
Дзяцінства бяздонне,
Бясконцасць імгненняў…
І пульсам на скронях
Крыніца натхнення.



***Павел Сім нарадзіўся 6 красавіка 1980 года ў Жодзіне. Скончыў гістфак БДПУ імя Танка і факультэт германістыкі Універсітэта Дуйсбург-Эссэн у Германіі. Супрацоўнік пасольства Германіі ў Беларусі. Любіць падарожнічаць, капацца ў мінулым і фатаграфаваць.***

## КЛАСІКА ШТОДНЯ

Вам давялося чуць Моцарта
У выкананні музыкаў,
З боку якіх несла воцатам
Сідру, што пілі ў пазыку?

Як параход трубы пыхалі,
Вецер гартаў партытуры,
Арфы не пелі, а рыкалі
Нізкім мажорам панурым.

Бюсты са сцен усміхаліся,
Хлопалі ўсе грамадзяне —
Класіка ім спадабалася.
Тут жа сядзяць не сяляне!

Ці то піяна, ці фортэ?
Незразумела ні чорта!

## З ПАЛОНУ ІСНУЮЧЫХ НОРМ

Здараецца так: не патрэбныя больш
Прывычныя формы існавання,
Аджыўшыя думкі, здаецца, шчэ горш,
Чым поўныя здзеку пытанні.

Атручаны пыл ад пажарышча дзён,
Якое стварылі гадзіны,
Спрабуе вярнуць у разбіты палон
Ідэі, што ўзвіцца павінны.

А думкі імкнуцца ўзляцець да нябёс
І выбухнуць, скрыўшы свяціла,
Каб светам заліць мне прадказаны лёс
І план існавання нямілы.

Імкніцеся ж ў неба, ідэі мае!
Ірвіцеся ж з сэрца, жаданні!
Цяпер мне ўсё роўна, як нехта жыве,
І мне невядомы хістанні!

## РЭЧКА З ДЗЯЦІНСТВА

Тыя ж самыя сцежкі ля рэчкі,
Тыя ж клёны, бярозы ды ліпы.
Я дзяцінства збіраю па рэштках
Даўніх дзён, што калісьці я выпіў.

А рачулка бяжыць так імкліва,
І вярба ўсё глядзіцца ў крынічку,
Кожны дзень быў такім асаблівым
І згараў, быццам яркая знічка.

## СЭРЦАМ ДА СЭРЦА

Абдымі нечакана — адчую цяпло.
Усміхніся вачыма — адчую пяшчоту.
Столькі часу і столькі імгненняў
прайшло,
Не аднойчы скідалі сады пазалоту.

У вачах мітуслівы агеньчык гарыць,
Як тады, у той міг, што звязаў
нашы лёсы.
Маё сэрца агеньчык той змог
распаліць —
І яно заспявала надрыўна і ўзнёсла.

Песню вецер разнёс па бясконцых
шляхах,
На якіх мы шукалі сябе, сваё шчасце.
Толькі бліскі мігцяць у гуллівых вачах,
Толькі сэрца імкнецца да сэрца
прыпасці…

